# 3 ліпеня – Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

## Са святам вас, дарагія сябры!


РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 50 (7863) Заснавана ў красавіку 1931 года СУБОТА, 1 ліпеня 2000 г. Цана 25 руб.


## *Паважаныя жыхары раёна, дарагія ветэраны Вялікай Айчыннай вайны!*

*Ад імя раённага выканаўчага камітэта і раённага Савета дэпутатаў сардэчна віншую Вас з дарагім для ўсіх жыхароў нашай рэспублікі святам – Днём незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Днём Рэспублікі) і 56-годдзем вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.*

*Дзень незалежнасці лічыцца галоўным нацыянальным святам у многіх краінах свету – днём абвяшчэння свайго суверэнітэту або вызвалення ад каланіяльнага ярма.*

*Па выніках рэспубліканскага рэферэндума 1996 года, па волі большасці беларускага народа, Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь з 1997 года стаў святкавацца 3 ліпеня – у дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.*

*У гэты светлы і радасны дзень мы віншуем салдат Вялікай Айчыннай вайны, якія ўдзельнічалі ў вызваленні нашай роднай зямлі ад фашысцкіх акупантаў і шануем памяць тых, хто не дажыў да дня Вялікай Перамогі.*

*Сёння Рэспубліка Беларусь – гэта незалежная, дэмакратычная еўрапейская дзяржава, маючая эканамічныя і дыпламатычныя адносіны больш як з 120 краінамі свету. У аснове гэтых адносін ляжыць узаемная павага да суверэнітэту кожнай краіны.*

*Мы здолелі захаваць усё тое добрае, што было створана працай беларускага народа ў савецкі перыяд і дапоўніць гэта добрае дасягненнямі сусветнай цывілізацыі.*

*У цяперашні складаны для ўсіх нас час толькі добрасумленная праца кожнага з нас на сваім рабочым месцы, адказны падыход да справы, захаванне працоўнай дысцыпліны стануць асновай для працвітання і дабрабыту нашай рэспублікі.*

***Са святам Вас, дарагія ветэраны і паважаныя жыхары раёна!***

***Міхаіл БАРЫСАЎ,***
***старшыня раённага выканаўчага камітэта.***

### ПЕРАДСВЯТОЧНАЕ ІНТЭРВ'Ю З НАМЕСНІКАМ СТАРШЫНІ РАЙВЫКАНКАМА ВАЛЯНЦІНАЙ КАВУНОВАЙ

# Моцная эканоміка – аснова жыцця

**— Валянціна Валянцінаўна, якраз перад святам незалежнасці Рэспублікі Беларусь завяршылася першая палавіна 2000 года. Зараз спецыялісты падлічваюць рэзультаты работы народнай гаспадаркі за паўгоддзе, і многае ўжо вядома. Скажыце, калі ласка, з якімі здабыткамі сустракаюць Дзень незалежнасці, 56-ю гадавіну вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў працоўныя нашага раёна?**

— Адметна і прыемна, што ёсць станоўчыя тэндэнцыі ў развіцці эканомікі. Работнікі прамысловасці раёна, да прыкладу, за студзень-чэрвень забяспечылі аб'ём вытворчасці прадукцыі, не ніжэйшы, чым у аналагічным перыядзе мінулага года. Нагадаю, летась было выткарана яе на 3,5 мільярда рублёў (у сёлетніх цэнах).

Актыўна папрацаваў, як заўсёды, калектыў леспрамгаса. Узначальвае яго шмат гадоў вопытны і прадпрымальны кіраўнік Міхаіл Рыгоравіч Філіпеня. Ён добра арганізаваў вытворчасць, зацікавіў людзей. Таму паўгадавы прырост прадукцыі дасягнуў 25 працэнтаў. Выконваецца гадавы прагноз.

Першае паўгоддзе было няпростым для цэментнікаў. Прадпрыемства пэўны час не працавала. І ўсё ж цэментны завод, дзякуючы мерам, прынятым дырэкцыяй, "выраўніўся", даў прыбаўку 2 працэнты да ўзроўню папярэдняга года. Ёсць упэўненасць у тым, што сёлетнія гадавыя паказчыкі прагнозу будуць вытрыманы.



Можна прывесці і іншыя добрыя прыклады. Немалаважна і тое, што няма вялікіх запасаў нерэалізаванай прадукцыі на складах. Выконваюцца патрабаванні па яе якасці.

**— Відаць, вынікі ў "прамысловых" калектывах розныя?**

— Сапраўды. Скажам, акцыянернае таварыства "Касцюковіцкі малаказавод" знізіла аб'ём вытворчасці. Адбылося гэта ў асноўным у сувязі з скарачэннем паставак малака вытворцамі. Што датычыць тавараў народнага спажывання, тут яўна недапрацоўвае кіраўніцтва прадпрыемства. Неабходна пашыраць асартымент прадукцыі, асвойваць новыя віды. Тады заданні па выпуску спажывецкіх тавараў будуць выконвацца. Гэта патрабаванне калектыву прадпрыемства і яго дырэктару Аляксандру Рыгоравічу Раўнягіну выказана.

***(Працяг на 2 стар.)***

# *Юнацтва, апаленае вайной*

Складаная доля выпала Васілю Дзянісавічу Мяканькаму, як і іншым дзецям ваеннага часу. У перыяд акупацыі В. Мяканькі быў падлеткам. Бацька яго ваяваў на фронце. А ён жыў разам з маці і сёстрамі ў пасёлку Чырвонамаскоўскі, што каля Саматэвіч. Маці выпякала хлеб партызанам. Даводзілася і яму іншы раз паказваць партызанам лясныя сцяжынкі. Да вызвалення ўсе жыхары пасёлка жылі ў лясных зямлянках. Напрыканцы 1944 года Васілю прыйшла павестка ў армію, у якой праслужыў больш як шэсць гадоў. Спачатку быў залічан у школу малодшых камандзіраў. Вестку аб перамозе пачуў у час службы ў запасным стралковым палку ў Прыбалтыцы. Быў камандзірам аддзялення, наводчыкам у супрацьтанкавай дывізіі. Пасля службы В. Д. Мяканькі працуе ў школе настаўнікам фізкультуры. Быў старшынёй спорткамітэта райвыканкама. Скончыў завочна інстытут фізкультуры. Працаваў у школе, выкладаў ваенную справу аж да выхаду на пенсію.



**На здымку: Васіль Дзянісавіч МЯКЕНЬКІ.**
**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

# ДОШКА ГОНАРУ

***Райкам прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу паведамляе, што ў ходзе спаборніцтва на нарыхтоўцы кармоў па стану на 29 чэрвеня лепшых вынікаў дасягнулі:***

Механізатар калгаса "Расія" **КАВАЛЁЎ Іван Мікалаевіч**, які на КСК-100 нарыхтаваў 1200 тон сянажнай масы.

Механізатар калгаса "Расія" **ЧЫЖ Аляксандр Рыгоравіч**, які на трактары МТЗ-82 з КДН-210 скасіў травы на 600 гектарах.

Механізатар калгаса "Радзіма" **ЗАЙЦАЎ Мікалай Аляксеевіч**, які на трактары МТЗ-82 з ПРФ-145 запрэсаваў 320 тон сена.

Механізатар калгаса "Новае жыццё" **МАЛАХАЎ Юрый Віктаравіч**, які на МТЗ-82 з ГВР-6 згроб сена на 597 гектарах.

Механізатар калгаса "Дуброва" **ПАПКОЎ Сяргей Дзмітрыевіч**, які на МТЗ-82 з ГВР-630 згроб сена на 574 гектарах.

### СЁННЯ – МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ КААПЕРАЦЫІ

# Настроены на лепшае

У першую суботу ліпеня Міжнародны кааператыўны рух адзначае сваё прафесійнае свята. Нягледзячы на ўсе цяжкасці і праблемы, спажывецкая кааперацыя нашага раёна захавала наяўную гандлёвую сетку.

Работнікі сістэмы райпа прыкладваюць усе намаганні па забеспячэнні насельніцтва асноўнымі прадуктамі харчавання, таварамі першай неабходнасці, у тым ліку за кошт уласнай вытворчасці і нарыхтовак.

Як прынята, перад святам падводзілі вынікі сваёй дзейнасці. Адзначылі станоўчае ў сваёй рабоце, засяродзілі ўвагу на недахопах. Шукаем шляхі, каб палепшыць становішча. Не выключэнне і сёлетняе свята. Варта адзначыць, што за пяць месяцаў бягучага года аб'ём рознічнага тавараабароту ў цэлым па сістэме склаў 1225,7 мільёна рублёў. Дэцэнтралізавана закуплена тавараў на суму больш 30 мільёнаў рублёў.

Добрых вынікаў у працы за прайшоўшы перыяд года дабіўся калектыў "Гандлёвага дома", які ўзначальвае Т. І. Бадзюкова. Тэмп росту тавараабароту ў супастаўных цэнах у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года складае – 7,7 працэнта.

Рэнтабельную работу забяспечваюць: калектывы аўтабазы райпа (дырэктар А. І. Плавінскі), камбіната кааператыўнай прамысловасці (дырэктар Л. В. Мацiек), рынка (дырэктар А. М. Сафоненка). У сістэме райпа заняты шмат добрасумленных, працавітых, адданых сваёй справе людзей. Сёння хочацца адзначыць некаторых з іх, сказаць словы ўдзячнасці за добрую работу, за ўклад, які ўносяць яны ў агульную скарбонку поспеху. Кандытара Людмілу Яфрэменка, прадаўца Тамару Арэхаву, загадчыцу Тупічынскага магазіна Ніну Кірычэнка і Відуіцкага -- Лідзію Маскалёву, рабочую камбіната кааператыўнай прамысловасці Тамару Вашачкіну і іншых. Проста пералічыць усіх працаўніц з шматгаліновай гаспадаркі, якія заслугоўваюць у святочны дзень самых добрых слоў, немагчыма. Аднак, іх праца не застаецца не заўважанай, старанных заўсёды цэняць і паважаюць у калектывах.

Цёплымі і добрымі словамі хочацца сёння ўспомніць нашых ветэранаў, тых, хто ўсё сваё жыццё прысвяціў рабоце ў сістэме спажывецкай кааперацыі, на сабе выпрабаваў усе цяжкасці яе станаўлення.

Міжнародны дзень кааперацыі адзначаецца напярэдадні Дня незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Таму мне хочацца шчыра павіншаваць з гэтым святам ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. Мы аддаём даніну павагі мужнасці тых, хто ў цяжкай барацьбе з ворагам адстаяў свабоду і незалежнасць Радзімы.

Ад імя праўлення райпа сардэчна віншую ўсіх работнікаў спажыўкааперацыі, ветэранаў, пайшчыкаў з Міжнародным днём кааперацыі. Жадаю ўсім моцнага здароўя, дабрабыту, шчасця, поспехаў у працы.

**Валерый МАРОЗАЎ,**
**старшыня праўлення райспажыўтаварыства.**

### ЗВЕСТКІ

***аб нарыхтоўцы кармоў у гаспадарках раёна па стану на 29 чэрвеня гг.***

*Першая калонка – назвы гаспадарак, другая – нарыхтавана сена (у % да плана), трэцяя – нарыхтавана сенажу (у % да плана), чацвёртая – нарыхтавана кармоў на 1 умоўную галаву жывёлы (цэнтнераў).*

| | | | |
|---|---|---|---|
| "Дуброва" | 60 | 38 | 8,5 |
| "Радзіма" | 46 | 25 | 5,3 |
| "Прагрэс" | 42 | 66 | 5,6 |
| імя Калініна | 35 | 94 | 8,5 |
| "Пар. камуна" | 35 | 80 | 5,5 |
| "Расія" | 29 | 46 | 5,4 |
| "Новы быт" | 27 | 7 | 1,9 |
| "Лен. шлях" | 25 | 22 | 3,1 |
| "Забычанне" | 22 | 30 | 5,3 |
| "Праўда" | 21 | 79 | 8,3 |
| "Бароньki" | 21 | 68 | 7,7 |
| імя К. Маркса | 18 | 62 | 4,9 |
| "Кранштат" | 17 | 43 | 4,8 |
| "Смолькі" | 16 | 33 | 4,3 |
| "Новае жыццё" | 13 | 72 | 4,0 |
| **ПА РАЁНУ:** | **28** | **49** | **5,2** |

# Моцная эканоміка – аснова жыцця

*(Заканчэнне. Пачатак на 1 стар.)*

Увогуле ж па раёну спажывецкіх тавараў выраблена больш як на 0,7 мільярда рублёў. Найбольшы прырост дасягнуты калектывамі хлебазавода і райпа (кіраўнікі Леаніда Цімафееўна Смоліна, Валерый Мікалаевіч Марозаў). Ёсць іх вялікая заслуга ў тым, што не дапушчана зніжэнне колькасці тавараў нашым раёнам.

**— Вядома, што побач з пералічанымі і іншымі напрамкамі дзейнасці, раённае кіраўніцтва надае вялікае значэнне аказанню розных паслуг насельніцтву. Чым парадавала сёлета гэта сфера?**

— Аб'ём платных паслуг у паўгоддзі ў раёне павялічыўся на 5 працэнтаў у параўнанні з шасцю месяцамі 1999 года. Больш высокі прырост бытавых паслуг. Тут пастараліся работнікі раённага камбіната бытавога абслугоўвання на чале з дырэктарам Галінай Пятроўнай Парфенавай. Прыкметныя поспехі і ў калектыва раённага вузла электрычнай сувязі (начальнік Мікалай Васільевіч Васіленка). Бытавікі і сувязісты мэтанакіравана ажыццяўляюць гадавыя вытворчыя прагнозныя праграмы.

**— Нельга не закрануць аграрны сектар эканомікі. Бадай ён самы складаны і праблематычны.**

— Сёння многія чакаюць пазітыўных змен у сельскай гаспадарцы. Якім шляхам яна пойдзе далей? Што трэба зрабіць, каб умацаваць фінансавае становішча калгасаў, дабіцца надзейнага забеспячэння насельніцтва прадуктамі харчавання, а перапрацоўчай прамысловасці – сыравінай. На гэтыя і іншыя важныя пытанні кіраўніцтвам краіны дадзены вычарпальныя адказы. Вызначана аграрная палітыка.

Трэба ў кожнай гаспадарцы забяспечыць яе ажыццяўленне. Самае галоўнае – эфектыўна працаваць, даваць як мага больш прадукцыі. Іншага шляху няма.

У прыватнасці, у нашым раёне асартымент сельгаспрадукцыі за апошнія гады рэзка звузіўся. Зусім не вырошчваецца лён. Амаль няма бульбы. Слабыя рэзервы для вытворчасці мяса. Калгасы прадаюць у асноўным збожжа і малако.

У васьмідзесятых гадах было інакш. Калі не ўдавалася адна культура, выручала іншая. Калгасы і саўгасы былі высокатаварнымі. Цяпер задача – аднавіць ранейшы ўзровень.

**— А якім чынам? У калгасах востры дэфіцыт кадраў, не хапае тэхнікі. Не кажучы пра вялікія даўгі.**

— Выкажу выключна асабістую думку. Без рэфарміравання сельскай гаспадаркі не абысціся. Падзяліць маёмасць слабых калгасаў – занятак не перспектыўны. У вёсках пажылыя і старыя людзі – мала ахвотнікаў "цягнуць" воз. Ды і атрыманая прадукцыя не прынясе прыбытку, бо закупачныя цэны не пакрываюць затрат на вытворчасць. Лічу, што трэба стварэць сумесныя аграпрамысловыя прадпрыемствы на базе калгасаў, заводаў, арганізацый, прызначаць добрых кіраўнікоў.

Гэтыя формы падказвае жыццё. Ужо зараз фактычна ўвесь раён працуе на карысць сяла: гараджане разам з вяскоўцамі сеюць, косяць, убіраюць вырашчанае. Засталося захаваць фармальнасці. Мяркую, што тады ўзрасце вытворчасць, умацуецца эканоміка, спыніцца міграцыя моладзі з глыбінкі ў гарады, павысіцца занятасць людзей. А менавіта з-за таго, што не вырашаюцца гэтыя пытанні, юнакі і дзяўчаты пакідаюць родны край.

**— Чым тлумачыцца факт, што і ў крызіснай сітуацыі некаторыя калгасы трымаюцца?**

— У асноўным тым, што іх кіраўнікі ўсё падлічваюць, прымаюць абгрунтаваныя рашэнні і ўмела гаспадараць, не дапускаюць промахаў. Маю на ўвазе такіх старшынь, як Фёдар Аляксандравіч Жукаў. Перш чым рабіць нейкі крок, ён глыбока падумае.

**— Асобнае пытанне. Па прагнозу за год трэба павялічыць вытворчасць малака на 3 працэнты. Ці рэальна гэта?**

— Раён пачаў плюсаваць па надоях. Гэта добрая прыкмета. Прагнозны паказчык можа быць дасягнуты.

**— Якія важнейшыя патрабаванні зараз да эканомікі?**

— Трэба зніжаць сабекошт прадукцыі, эканоміць энергарэсурсы, не дапускаць перавышэння вызначаных параметраў росту цэн. Безумоўна, важна рэгулярна ўносіць плацяжы ў бюджэт, увогуле пазбягаць пратэрмінаванасці разлікаў.

У перспектыве варта ўзмацняць планаванне.

**— Ваш погляд на інтэграцыю эканомікі. Што яна дае?**

—Вельмі многае. Стварэнне саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі дапаможа нам быць моцнымі і незалежнымі.

**— Дзякуй за інтэрв'ю.**

**Мікалай ДЗЯТЛАЎ.**



# НАШ ГОРАД



**КАСЦЮКОВІЧЫ** – горад беларускаўсходняй легенды, мае сваю шматвекавую гісторыю. У пісьмовых дакументах упершыню ўпамінаецца ў 1508 годзе. Мястэчка расло і ў XIX стагоддзі стала ў акрузе гандлёвым цэнтрам, у якім працавалі рамеснікі. З 1924 года горад стаў раённым цэнтрам.

Многія нашы землякі касцюкаўчане ўпісалі яркія старонкі ў гісторыю: Героі Савецкага Саюза, поўныя кавалеры ордэнаў Славы, воіны, якія аддалі жыццё за вызваленне Касцюковіч ад фашысцкіх акупантаў.

Горад па праву ганарыцца сваімі знакамітымі людзьмі: дактарамі навук, мастакамі, скульптарамі, кампазітарамі, пісьменнікамі і паэтамі. З горадам цесна звязана жыццё вучоных П. Лепяшынскага, Уладзіміра і Міхаіла Бонч-Бруевічаў.

У вайну 1941-45 гг. гарадской гаспадарцы быў нанесены значны ўрон, але ў пасляваенныя гады яна была адноўлена і Касцюковічы непазнавальна змянілі сваё аблічча.

Сённяшнія Касцюковічы – горад больш як з 18-тысячным насельніцтвам. Яго гонар – Беларускі цэментны завод, развіта мясцовая прамысловасць, будаўніцтва, сацыяльная сфера, працуюць калектывы, абслугоўваючыя сельскую гаспадарку.

Горад расце і мае перспектыву. Працоўныя калектывы прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў робяць усё, каб вытрымаць нялёгкі ў эканамічных адносінах перыяд, не даць разбурыцца таму, што створана. Пры ўсёй складанасці ў горадзе захоўваецца стабільнасць і спакой. Значыць, і надалей нам трэба працаваць і абараняць сваю працу, здабыткі.

Мы самі неяк не прыкмячаем у вірлівасці жыцця, што ў горадзе нямала адноўленых прадпрыемстваў. Толькі сярэдніх школ – чатыры. Пабудаваны новы храм для вернікаў, фізкультурна-аздараўленчы комплекс для спартсменаў, гандлёвы цэнтр, мікрараён "Маладзёжны", абнаўляюцца новымі дамамі вуліцы. Дачакаемся ўрэшце здачы бальнічнага комплексу.

Бачачы ўсё гэта, так і хочацца сказаць: "Жыве Беларусь!" Няхай яна і надалей мацнее і квітнее. народ рэспублікі заслужыў гэта, адстойваючы сваю свабоду і незалежнасць.

**Віктар ЦІХАНАЎ.**



**На здымках: будынак сярэдняй школы № 3 (уверсе), памяшканне фізкультурна-аздараўленчага комплексу, так выглядае мікрараён "Маладзёжны" з боку шашы Касцюковічы-Краснаполле. Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

# Эстафета в надёжных руках

Накануне праздника – Дня независимости Республики Беларусь, хотелось бы еще раз обратиться к вопросу патриотического воспитания. Эта тема в последнее время вновь обрела актуальность и является одной из важных. Воспитание человека – патриота своей Родины всегда оставалось важнейшим направлением идеологической работы любого государства. Однако, если сравнивать уровень патриотизма молодежи времён существования комсомола, то он, несомненно, выше, чем у нынешнего поколения. Это показала и Великая Отечественная война, во время которой сотни тысяч молодых людей отдали свою жизнь ради независимости своей Родины. И в послевоенное время, когда молодежь рядом со старшим поколением отстраивала разрушенную врагом нашу Родину, совершая подвиги на трудовом фронте. И в дальнейшем, на протяжении всего существования Союза Советских Социалистических Республик, социалистическая идеология была основой нашей прежней государственной системы.

Будучи составляющей общей идеологической структуры, комсомол посвоему воспитывал и учил жизни, был всегда впереди с его организующим началом, традициями, славной биографией. Членство в комсомоле и активная работа в нём были хорошей школой для развития в молодом человеке государственного мышления, ответственного отношения к судьбе своей страны.

Но история распорядилась так, что ВЛКСМ и Советское государство распались и на месте мощной организации стали образовываться разного рода объединения, которые были довольно далеки от общественных интересов, что привело к потере молодыми людьми моральных и политических ориентаций. Но даже в такой сложной идеологической обстановке нашлись люди, которые при поддержке руководителей республики, сумели создать организацию – Белорусский патриотический союз молодежи, ставящую перед собой главную задачу – воспитание гражданина, патриота своей Родины. БПСМ является одним из основных исполнителей государственной программы по патриотическому воспитанию молодежи, которая была принята в 1998 году. В рамках программы используются различные формы и методы работы. Это: викторины, конкурсы военно-патриотической песни, рисунка, спортивные мероприятия, посвященные памяти героев войны и труда.

В своей работе мы всегда опираемся на поддержку ветеранов, на их опыт в патриотическом воспитании молодежи. У нас тесное сотрудничество с советом ветеранов, которое заключается как в шефской помощи со стороны БПСМ, так и в формах работы. Ветераны – активные участники различных встреч, семинаров, круглых столов, кинолекториев. Именно с таких встреч молодежь впитывает в себя по крупицам ту любовь, то стремление старшего поколения быть патриотом своей Родины, быть свободным и независимым.

Молодежь чтит традиции старшего поколения. У нас никто не забыт и ничто не забыто. И в этой связи организуются походы по местам боевой славы, уход за братскими могилами. Ведется и поисковая работа, в частности, Забычанской СШ.

Активизировалась в районе и военно-патриотическая работа. Вновь традиционными становятся "День призывника", "Зарница".

Но каждое поколение по-своему проходит школу патриотизма. Это естественное состояние души человеческой. И у нас для этого есть всё: вековые традиции народа, свободолюбие, опыт борьбы за свободу, любовь к другим народам, да и не в последнюю очередь – душевная красота и щедрость белорусского народа. Эстафета старшего поколения передана в надежные руки.

От имени районного комитета общественного объединения "Белорусский патриотический союз молодежи" поздравляю всех жителей нашей Костюковщины с Днём независимости. Пусть в вашей жизни будет мир, покой и счастье.

Добра вам, уверенности и оптимизма!

**Виктор БУРЯКО,**
**первый секретарь РК ОО БПСМ.**

## Чытаючы радкі гісторыі

*Гісторыя нашай краіны – гэта гісторыя мужнасці і непераможнасці. Намаганні многіх былі скіраваны на тое, каб сказіць, перайначыць нашу гісторыю, каб пераканаць нас у тым, што быццам бы ў нас ніколі і не было багатага мінулага і што мы – нацыя без будучыні. Але гісторыю нельга перакрэсліць, бо наша дзяржаўнасць мае глыбокія гістарычныя карані і бярэ свой пачатак у сівой даўніне.*

*Гісторыі нашай Бацькаўшчыны будзе прысвечаны Дзень рэспублікі "О, Беларусь, лясная ружа", які пройдзе ў цэнтральнай бібліятэцы. Гістарычны шлях Беларусі, як самастойнай дзяржавы з пачатку IX стагоддзя, як самай ранняй, моцнай і буйнай дзяржавы Усходняй Еўропы і да сённяшняга дня раскрывае чытачам кніжная выстава "Бераг белых буслоў". Адказваючы на пытанні краязнаўчай вікторыны "Беларусь у падзеях і фактах", чытачы змогуць праявіць свае веды пазнання Бацькаўшчыны. Росквіт нашай літаратуры і культуры пакажа літаратурная фантазія "Песень Беларуси".*

*Гэтай жа тэме прысвечаны вусны часопіс "Пачатак тут, у родным краі", які пройдзе ў Шарэйкаўскай бібліятэцы. Урок радзімазнаўства "Ведаць гісторыю, бачыць будучыню" ў Тупічынскай, тыдзень "Гісторыя майго краю" прайшоў у Каніцкай бібліятэцы пад назвай "Я люблю сваю вёску". Ён завяршыўся экспедыцыяй "Наш край", якую бібліятэкар правяла разам з сябрамі клуба "Вытокі", літаратурны часопіс "Беларусь – маё слова і песня" адбыўся ў Баронькаўскай бібліятэцы. Наогул ва ўсіх сельскіх бібліятэках тэме гісторыі нашай краіны прысвечана шмат мерапрыемстваў. Гэты дзень асаблівы для нашай краіны і для кожнага з нас і адзначаць яго будуць па-асабліваму ўрачыста.*

***Лідзія ПАТАПЕНКА,***
***метадыст цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы.***

## Награды ждут ветеранов

5 мая текущего года, в преддверии светлого праздника Дня Победы в Великой Отечественной войне, жители Костюковичского района поздравляли своих ветеранов. На торжественном собрании в районном Центре культуры им вручали памятный знак "Ветеран войны 1941-45 г.г.", который был утвержден в соответствии с решением глав государств, участниц СНГ. Награждению подлежали лица, принимавшие участие в Великой Отечественной войне в качестве: военнослужащих, вольнонаемного состава, партизан и подпольщиков, работающих в период блокады (с 8.09.1941 по 27.01.1944 года) г. Ленинграда на предприятиях, в учреждениях и организациях города и награжденные медалью "За оборону Ленинграда", а также знаком Ленгорсовета "Жителю блокадного Ленинграда", награжденные орденами и медалями СССР за самоотверженный труд и безупречную воинскую службу в тылу в годы войны.

Всего по Костюковичскому району подлежало награждению 442 ветерана. На сегодняшний день вручено около 420 знаков, а более 20 знаков ждут своих ветеранов. Особенно это касается жителей Федоровки, Слободы, которые не прибыли на торжественное собрание.

Просим ветеранов, которые не получили данные памятные знаки, или их ближайших родственников прибыть в районный военный комиссариат по адресу: г. Костюковичи, ул. Зиньковича, 100.

**Сергей ВОЛНИСТОВ,**
**главный специалист райвоенкомата.**

# Праект буклета прызнан лепшым

У абласным конкурсе на лепшы рэкламны буклет "Бібліятэка раёна ў XXI стагоддзі", у якім прымалі ўдзел усе раённыя бібліятэкі, лепшай была прызнана Касцюковіцкая цэнтральная бібліятэка. Прадстаўляла яе загадчыца аддзялення абслугоўвання Таццяна Войценка. Яна і абараняла свой праект буклета.

Конкурс праводзіўся ў мэтах прадстаўлення бібліятэкі, як інфармацыйна-адукацыйнага, культурна-асветніцкага і вольнага часу цэнтра з поўным наборам бібліятэчных паслуг, здольнай быць патрэбнай у XXI стагоддзі.

Трэба сказаць, што цэнтральная бібліятэка – актыўная ўдзельніца шматлікіх конкурсаў. І гэта не першая іх перамога.

**Ул. інф.**



## *Поздравляем!*

*Горячо и сердечно поздравляем с 70-летием со дня рождения дорогую, любимую мамочку, бабушку* ***ШЕВЦОВУ Просковью Федосовну***

*Немало прожито на свете,*
*Седою стала голова*
*И благодарности слова*
*Сегодня выражают дети.*
*Тебе за искренность и честь,*
*За строгость и заботу,*
*За непростую жизнь, работу,*
*За то, что ты на свете есть.*
*Живи, родная, еще сто лет,*
*Душой и сердцем не старей,*
*Любовью внуков обогрей,*
*Вселяй надежду, веру в тех,*
*Кто ценит, любит больше всех.*

***Дети, внуки.***



***А ў мяне жывая цацка.***
***Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.***

НЕЗАБЫЎНАЕ

# ГЕРАІЧНЫ ШЛЯХ 6-Й СТРАЛКОВАЙ

6-я Арлоўская (былая Гатчынская, 3-я Петраградская) стралковая дывізія, якая сустрэла 22 чэрвеня 1941 года ў Брэсцкай крэпасці і прайшла цяжкі і гераічны шлях ад Заходняга Буга да Дняпра і Сожа, арматурай чырвонаармейскіх целаў змацавала Беларускую зямлю, якая стала назаўсёды роднай для рускіх, украінскіх воінаў.

Легендай увайшоў у гісторыю сусветных войнаў подзвіг абаронцаў Брэсцкай крэпасці, многія з якіх загінулі, абараняючы свяшчэнныя рубяжы Радзімы. Залатая Зорка Героя і ордэн Леніна, якімі ўзнагароджана Брэсцкая крэпасць-герой – гэта, у першую чаргу, узнагарода і слава 6-й дывізіі, якая змагалася ў крэпасці.

Бітва ў Брэсцкай крэпасці значна паслабіла нашы войскі, праводзячы абарончыя баі, дывізія адступала. Застаўшыеся часці 6-й дывізіі, ледзь стрымліваючы націск варожых дывізій з танкамі, вымушаны былі дзейнічаць разрознена, на розных напрамках, часта на вялікай адлегласці адзін ад аднаго, нярэдка ў акружэнні ці паўакружэнні. Многія лёгкапараненыя байцы не пакідалі сваіх часцей. Цвёрда трымалі кіраванне ў сваіх руках камандзір дывізіі палкоўнік Папсуй-Шапко, яго намеснік палкоўнік Асташанка, начальнік палітаддзела палкавы камісар Піменаў, камандзіры часцей.

Часці 6-й стралковай дывізіі, атрымаўшы папаўненне, баявую тэхніку, зброю, транспарт, пераправіліся праз раку Сож, каб заняць абарону ў раёне Чэрыкава і Мсціслаўля.

Аднак праціўнік 15 ліпеня нечаканым ударам прарваўся праз мост на рацэ Проня каля Прапойска, завязаў бой у горадзе і прыблізіўся да Чэрыкава, дзе абараняліся часці 6-й стралковай дывізіі. Прапойск утрымаць не ўдалося, але пад Чэрыкавам 6-я дывізія стаяла цвёрда.

Жорсткія баі вяліся днём і ноччу, асабліва ў раёне Прапойска. Горад неаднаразова пераходзіў з рук у рукі.

30 ліпеня 13-я армія сіламі 6-й дывізіі нанесла контрудар у раёне Крычава. У гэтым баі загінуў камандзір дывізіі палкоўнік Міхаіл Антонавіч Папсуй-Шапко. Выконваць абавязкі камандзіра дывізіі стаў палкоўнік Фёдар Афанасьевіч Асташанка.

Нямецкае камандаванне было занепакоена стратай Крычава.

1 жніўня ў 4 гадзіны раніцы танкавая група Гудэрыяна пры падтрымцы асноўных сіл 2-га паветранага флота перайшла ў наступленне на Рослаўль. Усю першую палову жніўня злучэнні 13 арміі, у іх складзе і 6-я дывізія, вялі цяжкія баі на фланзе прарваўшайся на Рослаўль варожай групоўкі і стрымлівалі яго значныя сілы.

Завяршыўшы баі ў раёне Крычава, з раніцы 13 жніўня праціўнік перайшоў у наступленне на Касцюковічы. Тут аслабеўшыя ў баях злучэнні 13-й арміі, у тым ліку і 6-я дывізія, ледзь стрымлівалі сілы ворага. Толькі на наступны дзень пасля ўпорных баёў вораг захапіў Касцюковічы.

Дарагую цану заплаціла наша армія. Да 13 жніўня ў дывізіі заставалася каля 2 тысяч, а пасля 14 жніўня, калі армія вымушана была пакінуць Касцюковічы, асабісты састаў 6-й стралковай дывізіі не перавышаў аднаго даваеннага батальёна. Аднак нашы войскі, адыходзячы ў паўднёва-ўсходнім накірунку, працягвалі весці ўпорныя баі на прыдатных для абароны рубяжах.

Далейшыя напружаныя баі разварнуліся ў раёне населеных пунктаў Почап, Унеча, Навазыбкаў.

Цяжкія баі вялі воіны дывізіі ў 1941-1942 гадах. Дывізія наносіла вялікія страты праціўніку на зямлі Беларусі, затым Браншчыны, Смаленшчыны, Арлоўшчыны, Белградчыны і Варонежа. Гэтыя баі дывізіі і іншых злучэнняў забяспечылі разгром фашыстаў пад Масквой і падрыхтавалі ўмовы для будучых пераможных бітваў. Яны выматалі і абяскровілі ворага. Баі 1941-1945 года забяспечылі перамогу нашых войск у 1945 годзе.

У верасні 1943 года 6-я стралковая дывізія ў складзе 50-й і 3-й армій, вяртаючыся назад, удзельнічала ў канчатковым вызваленні Касцюковіч, Прапойска, Быхава.

Засталіся жыць слаўныя баявыя традыцыі 6-й стралковай дывізіі, жыве памяць аб тых, хто аддаў сваё жыццё за свабоду і незалежнасць Радзімы. Ветэраны дывізіі верныя гэтым баявым традыцыям, свята захоўваюць памяць аб загінуўшых таварышах, робяць усё, каб наш народ, асабліва маладое пакаленне людзей, ведалі пра подзвігі нашых герояў. Яны сустракаюцца ў месцах даўніх баёў. Насельніцтва гарадоў і вёсак, сёлаў, якія былі вызвалены часцямі дывізіі, сардэчна іх сустракае і разам з імі свята захоўвае памяць аб тых, хто назаўсёды застася ляжаць на іх зямлі. У ліпені 1996 года такая сустрэча прайшла і ў Касцюковічах.

**Ірына ПЕТРУСЕВІЧ.**
**(З фондаў краязнаўчага музея).**

**ЛІЧЫЦЬ НЕСАПРАЎДНЫМ**

згублены ваенны білет ваеннаабавязанага **ВАСІЛЬКОВА Пятра Васільевіча.**

**СДАЮ**

свадебное платье напрокат. Обращаться по тел.: 21-6-27.

## *Хаця пісьмо і не апублікавана*

*Жыхар вёскі Вітунь М. Ф. Еўстаф'еў прасіў растлумачыць, як яму ўносіць абанентную плату за тэлефон, калі той не працуе з пачатку красавіка?*

*Са зместам допісу быў азнаёмлены в.а. начальніка раённага вузла электрычнай сувязі Р. М. Браусаў. Ён паведаміў, што па прычыне псавання кабелю ў вёсцы Вітунь сувязь працуе з перабоямі. Замяніць яго пакуль няма фінансавай магчымасці. Таму па камп'ютару будзе правераны кожны абанент. Хто не меў магчымасці карыстацца тэлефонам, у чэрвені будзе зроблены пераразлік абанентнай платы. Пытанне аб замене тэлефоннага кабелю будзе вырашацца.*

СВЕТ НАШЫХ ЗАХАПЛЕННЯЎ

# *Гісторыя на паштовых марках*

У свеце шмат вядомых філатэлістаў ад "караля калекцыянераў" Піліпа Феррары, маркі якога займаюць два вялізных пакоі ў Парыжы, да калекцыянераў-аматараў. Гэта цікавая справа захапіла мяне яшчэ ў малодшых класах. Пра яе добра ведаюць мае сябры, таму прапануюць рэдкія паштовыя маркі. Вось і нядаўна дзве аўдыёкасеты мне давялося абмяняць на паштовую марку з партрэтам знакамітага палкаводца. Вельмі беражліва адношуся да 2-3 соцень сваіх "маленькіх энцыклапедый". Так называю паштовыя маркі таму, што цікаўлюся гісторыяй кожнай з іх.

Увогуле, першая савецкая марка, якую выпусцілі 15 кастрычніка 1948 года, мае сімвалічны малюнак – рука, якая рассякае ланцуг. Лічыцца, што ў гэты дзень і нарадзілася савецкая філатэлія. За час існавання савецкай улады, якіх толькі марак не выпускалася! Усе большменш вядомыя падзеі, гістарычныя даты і юбілеі адлюстроўваліся ў спецыяльных марачных выпусках. Яны прысвячаліся пакарэнню космасу і першым касманаўтам, барацьбе за мір, Вялікай Айчыннай вайне, моладзі і самой філатэліі. На іх былі надрукаваны партрэты дзеячаў культуры і навукі. Маркі, якія адлюстроўваюць спорт і Алімпійскія гульні, флору, фаўну нашай краіны і інш. Выпушчана была грандыёзная лeніняіда.

Дарэчы, першая ў свеце марка была надрукавана ў Англіі 1 мая 1840 года. Называлася яна "Чорны пенні". Такую назву атрымала таму, што каштавала адзін пенні і на чорным яе фоне быў змешчаны партрэт каралевы Вікторыі. Ініцыятарам выпуску першай маркі быў Раўленд Хілл, якога і лічаць бацькам паштовай маркі.

Шмат часу прайшло з далёкага 1840 года. Колькі ж марак надрукавана за гэты час у розных краінах! Збірай хоць усё жыццё і аб'ядаць усе не хопіць часу.

Мы прызвычаіліся да таго, што ў нас выпускаюцца ў асноўным прамавугольныя маркі, радка трохвугольныя. Давайце зробім экскурсію ў свет марак, якія маюць свае цікавыя асаблівасці. Вось, напрыклад, у Турцыі ў 1848 паштовае ведамства выпусціла марку – васьмівугольнік, а расійскія маркі былі ромбападобныя, авальныя, нават круглыя. А яшчэ адно паштовае ведамства выдала марку, якая нагадвала сваёй формай абрысы роднага вострава.

Марка з паперы – з'ява звычайная, аднак ёсць і каштоўныя маркі, зробленыя з золата. У Венгрыі ўпершыню ў 1955 годзе маркі былі надрукаваны на алюмініевай фальзе. Прыкладна такія "алюмініевыя" маркі выпускаліся ў нашай краіне. У 1961 годзе была выдадзена серыя такіх марак, прысвечаная Дню касманаўтыкі. Адзін экзэмпляр іх быў і ў мяне. Блок марак 1958 года прысвечаны 400-годдзю польскай пошты, выдадзены на шоўку і г.д.

Вось і скончылася падарожжа па свеце з добрым правадніком – паштовай маркай. Менавіта так вандрую я з краіны ў краіну, сустракаюся з дзеячамі навукі, культуры, даведваюся пра розныя падзеі краін не выходзячы з дому, проста перабіраючы сваю калекцыю.

Большасць людзей, атрымаўшы пісьмо, нават не звяртае ўвагу на паштовую марку. Толькі не філатэліст! Зацікаўленасць гэтым заняткам дапамагае пазнаць свет, папоўніць свае веды. Дарэчы, папаўняю калекцыю не проста ўсім, што трапляе пад руку, а па тэмах. У прыватнасці, у маёй калекцыі каля трох соцен партрэтаў выдатных людзей розных часоў і краін, каля сотні вядомых карцін, надрукаваных на марках. Вядома, у рэзерве ёсць і маркі, прызначаныя для абмену з другімі калекцыянерамі.

Часта, калі становіцца сумна ці проста цяжка на душы, я пачынаю разбіраць паштовыя маркі. Гэты занятак захопліва і ты міжволі акунаешся ў свет цікавых падзей, знакамітых людзей, прыгожых кветак, гістарычных помнікаў.

**Аляксей АЎЧЫННІКАЎ,**
**выпускнік СШ № 4.**

СПОРТ

## ХЕТ-ТРЫК

Завяршылася абласная спартакіяда вучнёўскай моладзі па футболу сярод дзяўчынак. Пасляхова выступілі выхаванкі старшага трэнера Касцюковіцкай ДЮСШ па футболу Васіля Шкарубы, якія занялі трэцяе месца. Асабліва вызначылася Вольга Балакірава, якая забіла ў вароты сапернікаў тры галы. Добрую гульню паказалі таксама Вольга Шкода, Таня Навіцкая, Марына Комава, Арліна Мардаян.

## ФОРМА І ВЫНІК

Пасляхова пачала выступленне ў першынстве вобласці па футболу мужчынская каманда г. Касцюковічы. Каманда ўкамплектавана маладымі ігракамі, закончыўшымі дзіцячаюнацкую спартыўную школу. Сапернікамі выступалі футбалісты г. Чэрыкава. У сярэдзіне першага тайма Сяргей Старавойтаў зрабіў дакладную перадачу Аляксандру Чаркасаву і той распрaвіўся з ужо пустымі варотамі, але сапернік здолеў параўнаць лік. Гульня заканчвалася ўнічыю, і тут характар праявіў Аляксандр Шыпаў, які зрабіў дакладнейшую перадачу лепшаму іграку гэтага матча Сяргею Старавойтаву. Ён і паставіў пераможную кропку. Упэўнена правялі гульню Віктар Дасужаў і Аляксандр Радчанка.

Другую гульню каманда праводзіла на выездзе ў г. Слаўгарадзе. Адразу ж захапіўшы ініцыятыву нашы футбалісты павялі ў ліку. Свой "фірменны" гол левай забіае Сяргей Старавойтаў. Гол-прыгажун галавой праводзіць Віктар Дасужаў. Слаўгарадцы ў разгубленасці, чым і скарысталіся Аляксандр Чаркасаў і Андрэй Краўцоў, даводзячы лік да 4:0. У далейшым сапернік здолеў забіць два галы, але дакладны ўдар Аляксандра Шыпава ўжо да канца матча ахалодзіў пыл слаўгарадскіх футбалістаў.

Каманда ўдзячна старшыні райвыканкама Міхаілу Рыгоравічу Барысаву за аказанне матэрыяльнай дапамогі ў набыцці спартыўнай формы і інвентару.

## ПАМЯЦІ ФУТБАЛІСТА

Адбыўся футбольны матч памяці трагічна загінуўшага капітана зборнай горада па футболу Івана Прывалава. Сустракаліся каманды ветэранаў гарадоў Суража і Касцюковічаў. Адкрыў лік выдатным ударам прыкладна з 30 метраў Уладзімір Насырын. Надзейна згуляў у абароне Аляксандр Аляксеенка.

Хітразадуманыя камбінацыі рабілі Рыгор Касьянаў. Небяспечна пагражаў варотам гасцей Вучар Зейналаў. Але спартыўнае шчасце ў гэты дзень было на баку сапернікаў. Мяч упарта "абыходзіў" іх вароты, у выніку нічыя 1:1.

**Генадзь КЛЕЙМАН,**
**завуч ДЮСШ.**


Галоўны рэдактар Мікалай ДЗЯТЛАЎ

**ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ**

ЗАСНАВАЛЬНІК: КАСЦЮКОВІЦКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 213640, г. Касцюковічы, вул. Ленінская, 43. Індэкс газеты 64045

ТЭЛЕФОНЫ: галоўны рэдактар — 2-11-33; нам.галоўнага рэдактара, адказны сакратар -- 2-16-94; аддзелы: аграпрамысловы і інфармацыі -- 2-16-34; пісьмаў і масавай работы, бухгалтэрыя --2-23-55.

Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы А. ШПАКАВА.
Газета выходзіць у сераду і суботу.

Аб'ём газеты -1 друкаваны аркуш
Тыраж 1490 экземпляраў
Друк афсетны
Падпісана ў друк 30. 06. 2000 г. 18.00
Заказ № 50





Рэгістрацыйны нумар 760 ад 29 сакавіка 1997 года. Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М. Свярдлова, вул. Першамайская, 72.